# Шлях Моладзі

# Šlach Moładzi

…„Падыймайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі."

ЯНКА КУПАЛА.





№ 3 (102) Vilnia, Sakavik 1937 h. Hod IX.

## Usim padpiščykam „Šlach Moładzi“ vysyłajem akuratna

Apošnim časam atrymlivajem mnoha listoŭ ad padpiščykaŭ z zajavami, što jany nie atrymlivajuć „Šlachu Moładzi.“ Voś-ža padojom da viedama, što ŭsim padpiščykam i tym, što prasili prysyłać im naš časapis, — **„Šlach Moładzi“ vysyłajem akuratna** ŭ kancy kožnaha miesiaca. Dziela hetaha prosim usich napierad stojka damahacca svajho časapisu na svaich poštach, a kali chto i paśla hetaha nie atrymaje, prysyłać hetkija reklamacyi:

Na adnym baku kavałačka papiery pišacca ŭviersie „Reklamacja gazetowa“ i nižej - adrys našaj redakcyi, a na druhim baku tolki heta:

„Nie atrymaŭ № . . . (*tut padać katory numar*) „Šlachu Moładzi“ — i dać svoj adres. Bolš ničoha pisać nia možna.

Reklamacyju hetkuju pošta abaviazana pryniać i pierasłać nam zusim biezpłatna.

Nieatrymanyja numary „Šlachu Moładzi“ našym padpiščykam vysyłajem paŭtorna z hetym numaram.

*Administracyja „Šlachu Moładzi.“*

## BIEŁARUSKAJA ABECEDA.

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю. | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — K, к | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | W, w, V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I i — I, i | P, p — П. п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

// Шлях Моладзі

ІЛЮСТРАВАНЫ МЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Год IX. Вільня, Сакавік 1937 г. № 3 (102).

## *Ш А Г І*

*Начамі бела-белымі,
як звоніць з ветрам сьнег,
шагі чыесьці сьмелыя
скрыпяць ля шэрых стрэх.*

*Чые яны, бяздомныя?
Адкуль ідуць — куды?
Нашто кладуць таёмныя
на белы сьнег сьляды?*

*Нашто яны, скрыпучыя,
трывожаць хат спакой?
Бяз іх тут душы змучаны
марозам і бядой.*

*Вароты ўсе замкнутыя
няпрошаным гасьцём.
Тут душы страхам скутыя—
жывуць нямым жыцьцём.*

*Каго шагі вы ловіце
і клічыце з сабой?
Каму дарожкі топчыце
сьцюдзёнаю зімой?*

в. Таболы, 1.III.37.

*МІХАСЬ МАШАРА*

## *М О Л А Д З І*

*Сілу ўлівайце у кожны удар,
ў песьні — кіпучы парыў.
ўспень-жа у сонечных маршах, пясьняр,
хмельную брагу зары!*

*Рвіце крокамі брук!
Грудзі гартуйце на шторм!
Лесам мазольных рук
ў хмары кідайце гром!*

*Цемру паходняй маланак парві!
Горда галовы падняць!—
Звоніць хай моладасьць ў нашай крыві
гімнамі новага дня.*

*Рэж нарогамі дзірван!
Вытры сталь волі з іржы!
З моладзьдзю поплеч стань,
хто хоча заўтра жыць.*

*Шырака наша краіна лягла
Межамі зрыта зямля.
Хутка вясеньнім разьлівам зару
вынясе Нёман, Вяльля.*

*Ўзьвійся горда наш сьцяг!
Песьняў хай пеніцца медзь!
Ў сінюю даль жыцьця
будзем ісьці і пець.*

Вільня, 16.III.37.

*МАКСІМ ТАНК*



* * *

Iskrycca jarka śniehu biel,
Až vočy niejak kole,
Lahła čaroŭnaja paściel
Kruhom na les, na pole.

Razsypaŭ niejaki bahač
Brylantaŭ milijony,
Jon byŭ biaz rozumu, niajnač,
A mo' jakiś šalony.

Z brylantaŭ viažyć miesiac sieć,
Raśpiaŭšy srebny krosny,
Jaje źviazaŭšy uzdziaječ
Na jeli dy na sosny.

Śmiajecca miesiac čaradziej,
Hladzić cikava ŭsiudy,
Pływieć pa niebie ŭsio dalej
I baić kazki-cudy.

I cicha, cicha tak kruhom,
Čuvać jak serca b'jecca.
Usio zasnuła ćviordym snom,
Pamiorła ŭsio zdajecca.

Ŭ maroznu, śvietłu, cichu noč
Lublu pajści u pole
I vandravać tak adzinoč,
Dać dumkam svaim volu.

— — — — — — — — — — — — —

Nadyjdzie ŭsiož-taki para,
Zaśviecić jarka sonca
Ŭ vakonca viaźnia-zmahara,
Svabodu daść staroncy.

Zakapanaje, 27.II.37.

*J. BYLINA*

## РАСКІДАЛА ЗІМА

Раскідала зіма бель-палотны
па палетках старонкі маей,
прыакрыла хат чорных галоту,
лес ў капузе стаіць з сабалей.

Зацьвіла цуда-краскамі вокан,
бельлю срэбнаю сьветлых начэй.
Пахаджае, патрэсквае, крокам
ў шэрань ўбраўшысь мароз чарадзей.

Гэй! Прыйшоў ў вёску марац галодны—
чорнай процьмаю глянуў з вачэй. —
Раскідала зіма бел-палотны
па палетках старонкі маей.

*С. ХМАРА*

* * *

На зары дзён юнацка-бурлівых
Я жыцьцё самахоць атруціў,
У бязсонныя ночы тужліва
Я шукаючы праўды блудзіў.

І нярааз плакаў я над магілай,
Дзе найлепшыя сьпяць змагары,
І душою няраз я таміўся,
Быў гатоў, як яны, умярці.

І ня раз маё сэрца шчымела
Апяваючы прошлыя дні...
О, краіна мая дарагая,
Ты мяне прытулі, абнімі!..

*МАЛАДЫ ДУБОК*

# 25.III.1918 — 25.III.1937

*(У 19-тыя ўгодкі абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі).*

25-га сакавіка кожны сьведамы беларус думкамі сваімі пераносіцца ў 1918 год. У гэты дзень вяртаемся мы да таго часу, калі ў гісторыі Беларусі адбываліся сапраўды вялікія і нязвычайныя падзеі.

25-ты сакавік — гэта фактычна дзень нашай нацыянальнай гордасьці — дзень Вялікага Пераломy, дзень Беларускага Нацыянальнага Сьвята.

25-ты сакавік 1918 году зьяўляецца для нас Вялікім ня толькі тым, што тады прадстаўнікі Беларускага Народу абвесьцілі Беларусь Вольным і Незалежным Гаспадарствам (Дзяржавай), што выразілі найвышэйшыя беларускія нацыянальныя імкненьні, але так-жа і тым, што Акт 25.III.1918 нёс Беларускаму Народу ідэю дэмократыі, якая нясла нам магчымасьць належнага жыцьця і развою, а таксама брацкія і дэмократычныя суадносіны з іншымі народамі.

Як ведаем, акт абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі быў папярэджаны двумя ўстаўнымі граматамі, у каторых выразна былі паказаны асновы, на якіх мела апірацца незалежнае Беларускае Гаспадарства.

Вось-жа ў першай устаўной грамаце наўперад было сьцьверджана, што:

„Мы (Беларусы — *рэд.*) павінны ўзяць свой лёс ува ўласныя рукі. Беларускі Народ павінен зьдзейсьніць сваё права на поўнае самаазначэньне, а нацыянальныя меншасьці на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію“...

У другой устаўной грамаце гаварылася яшчэ выразьней і больш падробна. І так паводле гэнай граматы:

...„Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай.

Асноўныя законы Беларускай Народнай Рэспублікі зьцьвердзіць Устаноўчы Сойм Беларусі, склiканы на асновах агульнага, роўнага, простага, патаемнага і прапорцыянальнага выбарчага права, не зважаючы на пол, народнасьць і рэлігію.

У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі абвяшчаецца вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня.

У рубяжох Беларускай Народнай Рэспублікі ўсе народы маюць права на нацыянальна-пэрсональную аўтаномію; абвяшчаецца роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі.

У рубяжох Бел. Народнай Рэспублікі права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца. Зямля перадаецца бяз выкупу тым, хто самі на ёй працуюць. Лясы, вазёры і нутро зямлі абвяшчаюцца ўласнасьцю Беларускай Народнай Рэспублікі.

У рубяжох Бел. Народнай Рэспублікі ўстанаўляецца найбольш 8-мі гадзінны рабочы дзень“...

Усе гэтыя правы Беларуская Народная Рэспубліка мела захоўваць. „Сьцерагчы-ж інтарэсаў усіх грамадзян і народаў Рэспублікі і захаваць правы і вольнасьць працоўнага люду“ — забавязвалася.

З гэтага бачым, як сапраўды шырака лібэральныя, паступовыя і дэмократычныя былі асновы беларускага самастойнага гаспадарства.

Паказаныя вышэй пункты з устаўных граматаў гавораць нам так-жа як далёкія ад праўды тыя людзі, каторыя кідалі і кідаюць розныя паклёпы на Акт 25-га сакавіка 1918 году, закідваючы яму фашызм, якога тады йшчэ ніхто ня знаў, буржуазнасьць і іншыя нябыліцы.

Трэба пры тым сказаць, што Акт 25.III.1918 ў поўнасьці выяўляў сапраўдныя імкненьні Беларускага Народу, а асновы Беларускай Народнай Рэспублікі былі згодныя з псыхікай і жаданьнямі беларускіх працоўных масаў. Ды ўрэшце тое, што нёс Акт 25.III 1918 ўсьцяж ёсьць жывым і актуальным.

Трагэдыяй Акту 25 сакавіка і прычынай яго нязьдзейсьненьня было тое, што ворагі Беларусі былі далёка сільнейшыя, а так-жа што народ наш, нацярпеўшыся зьдзекаў і паніжэньня, ня будучы да таго дасканальна нацыянальна сьведамым, йшоў за клічамі больш гучнымі соцыяльнымі, часта дэмагогічнымі, якія кідалі на ўсе староны, перадусім, бальшавікі. Народ наш ня ўсьведамляў сабе тады добра таго, што соцыяльнае вызваленьне і перабудова йдуць неразлучна з вызваленьнем нацыянальным...

Падзеі 1918 году гэта вялікая навука на будучыню, асабліва важная для нас — моладзі. І дзеля гэтага мы павінны іх добра пазнаваць. Адначасна пазнавайма глыбіню духа Акту 25.III.1918 працуючы згодна з народным беларускім сумленьнем!...

*Я. Н.*

---

## Сьвяткаваньне 19-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі.

Сёлета сьвяткаваньне 25-га сакавіка — 19-х угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі — з незалежных ад Беларусаў прычын адбывалася скромна. Міма ўсяго, у дзень гэты на інтэнцыю Беларускага Народу ў Вільні ў Пятніцкай Царкве адбыўся малебен, а ў залі БНА урачыстае паседжаньне Беларускага Нацыянальнага Камітэту.

З прычыны Беларускага Нацыянальнага Сьвята Беларускі Нацыянальны Камітэт у Вільні атрымаў многа прывітальных тэлеграмаў і пісьмаў з Краю і з заграніцы.

Вечарам у гэты дзень Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні меў ладзіць адпаведную акадэмію, аднак не дастаў на гэта дазволу ад унівэрсытэцкіх уладаў.

У беларускіх скаўтаў пры Віленскай Беларускай Гімназіі 24.III увечары меў чытаць аб Акце 25.III.1918 году рэфэрат студ. Ч. Найдзюк. Рэфэрат гэты на жаданьне дырэктара гімназіі быў аднак адкліканы. Дзеля гэтага сьвяткаваньне 19-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі ў скаўтаў было агранічана да агульна сходу, на якім адпаведную прамову сказаў старшыня Гуртка Прыяцеляў Беларускіх Скаўтаў.

Скрамней так-жа адбывалася сёлета сьвяткаваньне 25 сакавіка і на вёсцы. Ясна, ня сьведчыць гэта аб тым, каб Ідэя Акту 25 сакавіка 1918 г. замірала, бо у сапраўднасьці ёсьць наадварот; а сьведчыць-жа гэта толькі аб варунках нашага жыцьця.

Урачыста сьвяткавалі 25-га сакавіка беларускія эмігранты ў Празе Чэскай (Чэхаславаччына).

---

**Краўцоў Макар**

# Пётра Антонавіч Крэчэўскі

Краўцоў Макар — гэта адзін з старэйшых беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў, які ў 1918 г. працаваў у Менску. Ніжэй падаём ягоныя ўспаміны аб супольнай працы з П. А. Крэчэўскім—Старшынёй Рады Беларускай Народн. Рэспублікі. — Рэд.

На пяцьдзесятым годзе жыцьця памёр 8 сакавіка 1928 году ў Чэскай Празе Пётра Антонавіч Крэчэўскі („Шлях Моладзі" № 11 (84) бачына 9-я; Вільня, Кастрычнік 1935).

таксама мінуць, разьвеецца цемра народная і вольны ды самастойны ў будучыні Беларускі Народ успомніць свайго вернага сына, скончыўшага дні свайго жыцьця ў дабравольным выгнаньні, на зямлі братняга Чэскага Народу.



П. А. КРЭЧЭЎСКІ

Жыцьцё бяжыць, а нябожчыкі сьпяць сном вечным. Сяньня ўжо дзевяць гад мінула ад дня скону высока-ідэйнага сына Беларусі Пётры Крэчэўскага, на долю каторага прыпала фізычнае носьбіцтва нязьдзейсьненай яго сучасьнікамі ідэі беларускай сувэрэннасьці.

Ліхія часы нядолі беларускай ні, на зямлі братняга Чэскага Народу.

Успомніць народ наш Пётру Крэчэўскага пагаспадарску і дасьць яму дастойнае месца ў Пантэоне свае гісторыі.

А тымчасам?...

Тымчасам—доўг кожнага, каго злучалі з Крэчэўскім вялікія бурныя дні самаахвярных пары-

ваў да новага вольнага жыцьця Беларусі, доўг кожнага жывога яшчэ сьведкі — успомніць чэснага, скромнага нозьбіта сьветазар най беларускай ідэі.

Далёка спачывае Пётра Крэчэўскі пад пастаўленым над яго магілай, трудамі ўбогай беларускай эміграцыі, памятнікам. А на памятніку напісана, што П. Крэчэўскі — Старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі...

Пастаўлены на варту вартаўнік найвышэйшых інтарэсаў народных, пакінены ледзь ня ўсімі, выбраўшымі яго, дастаяў на варце да канца. Заснула з ім горыч расчараваньня ад няспоўненых парываў і надзеяў, скончыла сваю няўтомную працу вялікае беларускае сэрца, перапоўненае любоўю да свайго сярмяжнага народу—земляроба, незразумеўшага на гэтым грэшным сьвеце ўладнага заклiку Сына свайго да каваньня свае праўды, свае сілы і свае волі...

У памяці маёй устае Пётра Крэчэўскі, як ціхая, скромная асоба з воркам папераў у руках: сяброўскіх мандатаў на Першым Усебеларускім Зьезьдзе ў Менску ў месяцы сьнежні 1917 году. Пазьней, знаёмячыся з ім бліжэй асабіста, пачуў я з яго ўласных вуснаў, што ён— народнік, быў у расейскай партыі соцыялістаў рэвалюцыянэраў, да вялікай вайны служыў у банку. Старэйшы за мяне быў, (як даведваюся з вышэй успомненага „Шляху Моладзі", толькі на 12 гадоў. Аднак яго пышная рыжаватая барада, крыху прыгнутая, вышэйшая за сярэдні рост, фігура ў старым шынялі расейскага вайсковага ўрадніка, з зімоваю сівою шапкай-*папахай* на галаве, недастача пярэдніх зубоў ў роце, а праз гэта і глухі тэнаровы тэмбр голасу пры гутарцы—ўсё гэта рабіла яго нейкім старэйшым з выгляду. Ува ўсёй яго ціхай, малаахвотнай на словы, істоце таілася выразная, цьвёрдая воля ісьці да канца цярністым шляхам беларускага дзеяча-пакутніка. Душа яго гарэла нейкаю рамантычна дзявочаю надзеяй, хоць з выгляду Крэчэўскі ўжо ў 1917-м годзе быў — чысты дзед. Не магу прыпомніць ані ценю гневу на яго шырока-носым сьветлым твары, а таксама ў вечна-спакойным і вечна-ласкавым паглядзе рашучых шырока-расплюшчаных вачэй. А гэтулькі-ж усялякіх мамэнтаў разам з ім прышлося пераўжываць!

Калі бывала і з дакорам якім зьвернецца да цябе, дык неяк пасвойму, мягка, з усьмешкай на твары, з ласкаю ў вачох, ад якіх чалавек не адарвеш свайго пагляду, мігам астынеш, пераканаешся ад жмені яго простых, шчырых слоў, ішоўшых з глыбіняў добрае душы яго...

Успомніць варта і рэдакцыю „Вольнай Беларусі," а ў ёй Пётру Крэчэўскага, прыйшоўшага спрабаваць зьмясьціць у гэтым часапісе свой верш —народную беларускую лягенду пра птушку—бусла. „І беларус буслаў шануе, ён кажа „нельга бусла біць," бо наша ў ім душа існуе, ён чалавек і хоча жыць" — назаўсёды ўрэзаліся мне ў памяць апошнія словы верша, чытанага Крэчэўскім. Ці варта дадаваць, што верш у „В. Б." быў зьмешчаны?..

Заўсёды аднолькавы, каменна-спакойны, Пётра Антонавіч трымаўся з нейкаю патрыяршаю, сказаў-бы той, павагаю. Мы ўсе любілі яго, бо іншага пачуцьця ён ні ў кім і нічым ніколі ня выклікаў. Ніколі на нішто ня жаліўся. Пачуцьцё таварыскасьці меў нязвычайнае. Шмат нялічаных разоў мы позна ўночы ішлі разам дамоў, бо недалёка адзін ад аднаго пражывалі ў Менску: ён на Старажоўскай, а я на Міхалаўскай вуліцы. Розныя бела-

рускія паседжаньні ў часе нямецкай акупацыі забіралі ў нас вельмі шмат часу. Вычарпаныя фізычна, але моцныя духам, глыбокімі начамі мы часта разам вярталіся на сваё прадмесьце. І тады, заўсёды „нямы,“ ў часе найгарачэйшых нават дэбатаў на паседжаньнях, Пётра Антонавіч быў шчодрым на гутарку. Што глыбока прадумаў, таго трымаўся да канца, у што верыў, тое бараніў з сакавітаю проста спакойнасьцю На кожнае пытаньне адказваў адным і тым-жа самым роўным тонам...



Надмагільны памятнік П.А. Крэчэўскаму ў Празе Чэскай.

Пётра Антонавіч! ты, здаецца, знаёмы з лацінаю? Што азначае пабеларуску *ultima ratio?*

— Ultima ratio?... Ну, *найвышэйшы сэнс*, ці як там сказаць...

І пачне паясьняць так, што здаецца і дзіця зразумела-б...

— Пётра Антонавіч! У Раду маюцца ўвайсьці абшарнікі, а таксама і „расейцы“ з Сьвята-Мікалаеўскага Брацтва; як да іх адносіцца?

— Як да трутняў, — адказвае з усьмешкай...

Вывесьці Крэчэўскага з роўнавагі не ўдавалася. На выгляд ён спакойна ўспрыймаў нават і балюча-вострыя фразы.

Успамінаюцца „нарадзіны“ першага беларускага ўраду — Народнага Сэкрэтарыяту ў былым губэрнатарскім доме на Пляцы Волі ў Менску, у лютым 1918 году. Я і „бунтарская душа“ М. адмовіліся ўвайсьці ў склад гэтага Сэкрэтарыяту, кожны матывуючы сваю адмову тым, што ня чуемся „сьпелымі,“ каб узяць на сябе гэткія непасільныя ролі.

Праз гадзін колькі Народны Сэкрэтар П. Крэчэўскі напікае:

— Што ў цябе, Макар, за асабістая тактыка гэткая—ўхіляцца ад працы?

— Ад працы ніякай ня ўхіляюся, не магу толькі быць опэрэтачным...

Я абарваў свой сказ, бо у глыбіню сэрца ўрэзаўся мне халодны пагляд вачэй Крэчэўскага, бяз слоў казаўшы мне, што тут ня месца і ня час на жарты...

Пазьней, пад нямецкай ужо окупацыяй Менску, Крэчэўскі ў кампаньні з іншымі сваімі калегамі з Сэкрэтарыяту, за скромнай вячэрай прыпомніў мне гэтае здарэньне з лёгкаю ўсьмешкаю:

— Што-ж? патвойму гэта — опэрэтка?

— Не! хіба – трагэдыя, — адцяўся я.

— Вызначаешся тым, Макар, што раз у тыдзень бываеш гэніяльным, — кусьліва завастрыў Язэп Варонка, зьвяртаючыся да мяне...

Помніцца адно паседжаньне Рады Рэспублікі, якое скончылася вельмі весела, дзякуючы арыгінальнай думцы Пётры Крэчэўскага, выказанай... мною.

Рада зьбірала сілы, папаўнялася прадстаўнікамі дэмакратыі нацыянальных меншасьцяў Беларусі. На Захараўскай вуліцы, недалёка ад вуліцы Серпухаўскай, у цеснай салі Рады выступіў з дэклярацыяй на адным з паседжаньняў і прадстаўнік польскай дэмакратыі гр-н П., гаварыўшы (ясная справа) папольску. Мы з Крэчэўскім сядзелі блізка адзін проці аднаго за вузкім сталом. Польскі аратар скончыў сваю прамову, аж раптам з левага крыла Рады просіць слова т-ІІе Б., каб парасейску заявіць, што яна нічога незразумела з прамовы польскага прадстаўніка, якую пажадана было-б перетлумачыць пабеларуску. Кіраваўшы ў гэты мамэнт паседжаньнем, таварыш старшыні Варонка пачаў сур'ёзна тлумачыць польскую прамову.

А Крэчэўскі шэпча мне:

— Б. напэўна выступіць яшчэ, ну і ведама... парасейску... Скажы, што не разумееш і прасі тлумачыць,

Так яно і выйшла. Адзіная сярод нас прадстаўніца жаночага полу, хоць і шчырая беларуска, з роднаю моваю тады спраўлялася настолькі слаба, што лягчэй было ёй гаварыць парасейску.

Я папрасіў, пасьля яе, слова і дамагаўся тлумачэньня яе прамовы пабеларуску.

Гук воплескаў і бязупынны сьмех разьлёгся па ўсёй салі...

Варонка зазваніў і, злавіўшы мамэнт некаторай цішыні, пачаў тлумачыць прамову таварышкі Б., сам ня могучы ўстрымацца ад сьмеху. Тлумачэньне яго заглушыў яшчэ большы гук воплескаў і агульная веселасьць, ніколі датуль у Радзе нямеўшая месца. Паседжаньне гэтым разам скончылася хутка і па дарозе дамоў я толькі і мог сказаць Крэчэўскаму нешта падобнае да гэткіх словаў.

— Ну-ж і нумар ты прыдумаў сягоньня, Пятрусь!

А ён мне доўга даказваў, як мала яшчэ назваца дэмакратам — трэба быць ім ня толькі ў сваёй беларускай талерцы.

Шчыра-дэмакратычная душа Крэчэўскага не магла, відаць, абмінуць звычайным для яе маўчаньнем крыху „нясмачнага", хоць мо' і шчырага, выступленьня таварышкі Б.

Варта хіба ўспомніць, як на долю Крэчэўскага выпала ліквідаваць уладу Ляндэра і ўсіх яго, ахопленых панікаю, *„народных камиссаров Западной области и фронта"* у тую самую ноч, калі стварыўся Народны Сэкрэтарыят Беларусі.

Бальшавіцкія камісары затрыманы былі служачымі чыгункі на менскім вакзале. Чыгуначнікі проста не хацелі выпусьціць з Менску тагачаснае расейскае „ўлады" з торбамі, туга напханымі керэнкамі ды іншымі грашовымі знакамі... „Уцякаеце, саколікі, а нас з чым пакідаеце?..."

Дэлегаваны да чыгуначнікаў, прызнаваўшых беларускую ўладу Народнага Сэкрэтарыяту, П. Крэчэўскі парадзіў ім патрэбаваць ад бальшавіцкіх камісараў выплаты пэнсіяў чыгуначнікам за паўгода наперад. Камісары мусілі на гэта згадзіцца. Спроба затрымаць камісараў слабымі сіламі ваякоў-беларусаў запраўды рызыкоўнаю здавалася тады не аднаму Крэчэўскаму і зусім ня дзіва, што гэткае спробы вялікадушны Пётра Антонавіч тады не зрабіў.

Увесь вонкавы выгляд „старасьці" Крэчэўскага здавалася мудра казаў: „Ня ў сіле Бог, а ў праўдзе."

І раз знайшоўшы сваю вялікую Праўду Беларускую, Крэчэўскі насіў яе, як цяжкае бярэмя абавязку, у страшэнныя дні вялікіх палітычных катаклізмаў; у высо-

ка патрыятычным сэрцы сваім вынес гэтую Праўду на чужыню і з гэткім дарагім скарбам душы свае гараваў і сумаваў на гасьціннай зямлі чэхаславацкай дэмакратыі.

Прыйдуць дні іншыя. І памяць аб Крэчэўскім ускросьне ў мільёнах шчасьлівых душаў беларусіх.

Ускросьне, каб больш не паміраць.

## Tvory Michasia Mašary pačesku

U Čechasłavaččynie, u Prazie ŭžo 19-ty hod vychodzić časapis „Slovansky Prehled". Pryśviačany jon paznavańniu palityčnaha, sacyjalnaha i kulturnaha žyćcia słavianskich haspadarstvaŭ i narodaŭ. Čas ad-času źmiaščaje hety časapis viestki i ab Biełarusach.

U № 2 „Slov. Prehl." sioleta znachodzim, miž inšym, artykuł ab maładym našym pieśniary Michasiu Mašary. U hetym-ža numary nadrukavany tak-ža dva vieršy Michasia Mašary ŭ českaj movie, pierałožanyja Františkam Tichy'm.

## „Vilniaus Žodis" ab maładych biełaruskich paetach.

U litaraturnym dadatku „Kuryba ir kritika" da № 15 (229) z dn. 26.III siol. vilenskaje litoŭskaje hazety „Vilniaus Žodis" źmieščany jość miž inšym artykuł ab maładoj biełaruskaj litaratury ŭ Vilni. U artykule henym znachodzim vielmi prychilnuju acenu tvorčaści Maksima Tanka, Michasia Mašary, Natalli Arsieńnievaj, Chv. Iljaševiča, Vasilka, Niny Taras, Biarozki, a taksama Vincuka Advažnaha. Uspaminajucca tam tak-ža biełaruskija časapisy „Šlach Moładzi", „Kałośsie" i „Bieł. Letapis", jakija hurtujuć kala siabie biełaruskich litaratarаŭ.

### Мяцеліца.

Сярдзітая мяцеліца  
І віхрам закруцілася,  
Сьнег бел, як пер'е, сьцеліцца,  
Туманам даль пакрылася.  
І гоніць сьнег палямі  
Віхры злуюцца, круцяцца,  
Сьпяваюць, або смуцяцца  
Гамонячы з парканамі.  
Б'юць ў вокны, ў шыбы белыя  
Сьнягамі бурна звонючы  
І ў комінах рагочучы  
Віхуры ашалелыя.  
Дзе дзеці пасінелыя  
У кут ля печы туляцца  
І з голадам галубяцца  
Іх вочы пахмурнелыя.  
Так бачыць сонца й хочацца  
Цяпло з яго праменьнямі,  
Вясеньняю разводзіцу,  
Зіму забыцца з ветрамі.

*Пятрусь Граніт.*

### Беларусь, родная маці

Край прыгожых лясоў і лугоў,  
Ты умееш сабой чараваці;  
Хараством сваіх песьціш сыноў,  
Беларусь, наша родная маці!

Родны кут, як цябе ня любіць,  
Дзе мне лепшага шчасьця шукаці?  
Не, к табе маё цэрца гарыць, —  
Беларусь, наша родная маці!

Для цябе толькі й хочацца жыць,  
І усе свае сілы аддаці,  
І табе да магілы служыць,  
Беларусь, наша родная маці!

І тагды аднаго мне жадаць,  
О зямелька! Як буду канаці:  
У абоймах тваіх спачываць,  
Беларусь, мая родная маці!

*Янка Ратай.*



# Usie haspadarstvy na hvałt zbrojacca

Apošnim časam hazety niasuć z usich staron viestki ab tym, što ŭsie badaj haspadarstvy (dziarža-ja. Mała adnak ad ich astajucca i haspadarstvy inšyja. Voś, naprykład, Anhlija ŭ svaim budže-



Francuskaja piechata ŭ m. Aleksandrecie ŭ Mał. Azii pilnujučaja paradku.



Novačasny byccam najskarejšy na ŭsim śviecie anhlijski vajenny samalot.

vy), jak nikoli, uvaružajucca i pryhataŭlajucca da vajny.

Pieršaje miesca ŭ zbrajeńni zajmajuć, zdajecca, fašystaŭskija haspadarstvy: Niamieččyna i Italicie na sioletni hod asyhnavała na razbudovu latunstva 88 z pałovaj milijonaŭ funtaŭ šterlinhaŭ (funt = 25 zł), h. zn. na bolš jak 20 milijonaŭ funt. štr., čymsia ŭ mi-

nułym hodzie. Na zbrajeńnie takža raśpisana ŭnutranaja pazyka na bolš jak 1 z pałovaj milijarda złotaŭ (400 mil. funtaŭ šterlinhaŭ). ŭzbrajeńnie na 70 prac. Prahrama zbrajeńnia abličana jość na 19 milijardaŭ frankaŭ, h. zn. bolš jak 4 z pałovaj milijardy złotaŭ.



Matornaja vajennaja łodka, jakaja raźvivaje svaju skoraść da 90 kilametraŭ u hadzinu.



„Barsaljery“—zmataryzavanaja italijanskaja piechata ŭ pachodzie pierad Musolinim.

Francyja ŭ praciahu 6 miesiacaŭ maje pavialičyć kolkaść svaich samalotaŭ na 17 prac., zapasy amunicyi na 50 prac., ahulnaje

Pavodle anhielskich padličeńniaŭ, u sučasny mament: Anhlija, Zł. Štaty Paŭnoč. Ameryki, Japonija, Francyja, Italija, Niamieččy-

na i SSSR budujuć 351 novych bajavych marskich adzinak, h. zn roznaha rodu vajennych karabloŭ i padvodnych łodkaŭ.

Saviety, pavodle anhlijskich abličeńniaŭ, majuć ciapier 40 padvodnych łodak ŭ Uładyvastoku, a kala 90 takich łodak na Bałtyckim mory. Kali hetyja danyja praŭdzivyja, dyk Saviety majuć najbolšuju kolkaść padvodnych łodak. Dasiul najbolš, bo 100 padvodnych łodak, mieli Zł. Štaty Paŭnoč. Ameryki. Prytym Saviety majuć 7000 vajskovych samalotaŭ, z jakich 2000 najnaviejšaje kanstrukcyi.

Ahulnaje zbrajeńnie biazumoŭna spakoju nie varožyć, choć i kažuć ludzi časta, „što kali chto choča mieć spakoj, pavinien uvažacca". *jn.*

# На шляху адраджэньня

Гісторыя адраджэньня беларускага народу прыносіць нам вельмі многа цэнных і карысных спасьцярогаў і вучыць нас, што рабіць сяньня і якімі шляхамі йсьці далей. Грунтоўнае пазнаньне нашага адраджэнскага руху і зразуменьне яго сутнасьці ўлівае ў нашыя душы многа гарту і веры ў уласныя сілы і ў тое, што народная воля і імкненьні зьяўляюцца непераможнымі. Гэтую спрадвечную праўду з асаблівай яркасьцю паказаў нам у адным сваім вершы наш вялікі поэта Максім Багдановіч. Кажа ён там, што як жменя засохшых зерняў, якую знайшлі ў тысячалетняй эгіпецкай магіле, засееная ў жыцьцядайнай зямлі, „буйна ўскаласіла парой вясеньняй збожжа на ральлі," так і „зварушаны дух народны не засьне, а ўперад рынецца, маўляў крыніца, каторая магутна, гучна імкне, здалеўшы з глебы на прастор прабіцца."

Як тое зерне, закопанае ў магіле, гэтак і народ беларускі, пасьля свайго поўнага заняпаду ў XVII і XVIII в., захаваў у сабе нязьмеранае багацьце моцы і творчых здольнасьцяў. Ідэя адраджэньня родзіцца і брыняе сярод некаторых кругоў спольшчанай і зрусыфікаванай шляхты і інтэлігенцыі на Беларусі ўжо ў пачатку XIX стагодзьдзя, у працягу цэлага стагодзьдзя замацоўваецца і дае даволі багатыя плёны, асабліва ў разьвіцьці літаратуры, аднак ня можа яшчэ пранікнуць у сялянскія масы, якія да 1861 г. былі пад прыгонам. І толькі тады пачынаецца ўзапраўдны адраджэнскі рух, сьвядомы сваіх мэтаў і заданьняў, калі пачынае адклікацца і браць у ім учасьце маса.

І вось гэтая сыстэматычная і сьвядомая праца над усестароньнім адраджэньнем народу пачынаецца толькі каля 1905 году, у часы першай расейскай рэвалюцыі, г. зн. мала болей, як трыццаць год назад. Тыя ахвярныя барацьбіты за правы да жыцьця свайго народу, якія ў той час запачаткавалі сьведамы беларускі рух, лічыліся ўсяго толькі на адзінкі, а мелі перад сабой колёсальныя заданьні і аграмадныя труднасьці й перашкоды да пакананьня. Сялянскія масы нацыянальна былі яшчэ нясьведамыя, лічылі сябе паводле рэлігіі: праваслаўныя — расейцамі, а каталікі — палякамі, у найлепшым-жа прыпадку называлі сябе „тутэйшымі," а сваю мову — „простай." Трэба было вялікага гэроізму, жалезнай волі і ахвярнасьці, ды ўрэшце моцнае веры ў праўдзівасьць і сьвятасьць ідэі, каб мроіць аб магчымасьцях падняць і ўзварушыць масы і паклікаць іх да самастойнага культурнага і грамадзкага жыцьця.

Аднак сьмелыя й здэцыдаваныя пачынаньні нашых першых адраджэнцаў прынесьлі неспадзяваныя вынікі: Іхняя праца знайшла гарачы водклік і зразуменьне нятолькі сярод лепшых адзінак тагочаснай інтэлігенцыі, перадусім студэнцкай і вучнёўскай моладзі, але так-жа пачала шпарка пранікаць у народ і будзіць у ім нацыянальную і соцыяльную сьведамасьць. Навакол часапісу „Наша Ніва," які выходзіў ад 1906 да 1915 г. і адыграў колёсальную гістарычную ролю ў беларускім руху, вельмі буйна разьвіваецца мастацкая літаратура, стоячая на высокай артыстычнай роўні і будучая найглыбейшым адбіцьцём адраджэнскіх ідэяў. Такім спосабам беларускі адраджэнскі рух, які ахапіў ужо ў той час усе праявы творчага жыцьця народу, з кожным годам дужэў і пашыраўся, аж у пэрыяд сусьветнае вайны і яе ліквідацыі выліўся ў стыхійнае масавае імкненьне да самастойнага жыцьця. Калі ж пасьля вайны беларускі народ апынуўся ў межах аж некалькіх дзяржаваў, ягоная творчая праца не замерла; наадварот, на ўсіх землях, дзе жывуць Беларусы, працэс нацыянальнага адраджэньня ўсьцяж павялічваецца і паглыбляецца, пранікаючы ў найбольш глухія і цёмныя куткі нашага краю.

Калі глянуць сяньня з кароткай, бо ўсяго трыццацігодняй пэрспэктывы на дасюлешні год нашага адраджэньня і коратка падсумаваць яго вынікі, то пабачым вельмі пацешаючае і нязвычайна рэдка спатыканае ў гісторыі зьявішча. На працягу гэтых трыццаці год наступіла шырокае ўсьведамленьне беларускіх сялянскіх масаў і іхняе грамадзкае выпрабленьне, за гэты час вельмі буйна й багата разьвілася беларуская культура: літаратура, мастацтва, песьня, музыка, навуковае жыцьцё і г. д. Урэшце беларуская мова, падзеленая на паасобныя гаворкі — дыялекты, дзякуючы вялікім нашым паэтам і пісьменьнікам на чалез Я. Купалам і Я. Коласам, высака ўдасканалілася, узбагацілася і сяньня ня ўступае літаратурным мовам многіх іншых славянскіх народаў.

Культурныя нашыя цэннасьці, твораныя здольнымі і талентавітымі адзінкамі, што выйшлі з пад саламяных стрэх нашых вёсак і сёлаў, пранікаюць тым ці іншым шляхам у народ, падносячы яго культурна грамадзкі стан і ўзгадоўваючы яго ў роднай культуры. Падсумоўваючы ўсё гэта можна сьмела сказаць, што ў працягу ўспомненых трыццаці год Беларусы із нясьведамай этнаграфічнай масы, нязнаючай нават імя свайго, сталіся сьвядомым нацыянальна, выпрабленым грамадзка і культурна творчым народам.

Гэты вось вялікі размах беларускага адраджэньня, якое з такой шпаркасьцю йшло наперад, нягледзячы на розныя перашкоды і няўдачы, сьведчыць аб вялікай жывучасьці беларускага народу, яго духовай моцы і творчых здольнасьцях, якія, згодна з адвечным законам гісторыі, мусяць праявіцца ў жыцьці і адыйграць адпаведную ролю.

Сягоньня ў спадчыне па старым пакаленьні павінна нашая моладзь годна і ахвярна прадаўжаць яго працу. Лёс нас паклікаў быць далейшымі ўзгадавальнікамі свайго народу і засяваць зерне роднае культуры на беларускай ніве, задзірванелай у працягу доўгіх сталецьцяў цемры. А жалезная воля народу нашага і затоеная ў ім творчая сіла будуць для нас — беларускай моладзі — у цяперашнія цяжкія часы найвялікшаю зарукай, што нашая няўтомная праца ў недалёкай будучыні закалосіцца багатымі плёнамі.

*С. Карыцна.*

# Dahrobnaja luboŭ

Ściudziony viecier śvistaŭ i zavyvaŭ. Kruhom było panura i sumna. Sonca ŭžo schavałasia za les, pakinuŭšy za saboj čyrvonuju zaru. Paŭnočny viecier, vypahadziŭšy nieba, pavoli ścichaŭ, pieradajučy svajo panavańnie sivomu marozu. A maroz byŭ nie lanivy. Zakoŭvaŭ reki i vaziory, pryhožymi-ž malunkami kvietak ubiraŭ viaskovyja vokny, lez u chaty, choć čuŭ tam narakańni. Nie abminaŭ i mahiłak z vysokimi sosnami, što šumieli nad kryžami. Jon siudy dabiraŭsia, kab zamarozić śviežuju mahiłu Janki, siańnia jašče pachavanaha. Biedny Janka, zhryzieny suchotami, lažaŭ u syroj ziamlicy, a rodnaja jahonaja vioska, pryhniečanaja biadoj i niadolaj, zasynała zimovym ciažkim snom.

Adna tolki Hania nia spała. Śmierć Janki abchapiła jaje biezhraničnym žalem. Jaje paduška była mokraja ad haračych śloz. Jaje hubki cicha šaptali: „pamior moj darahi Janka; pamior i nikoli jaho nia ŭbaču, nikoli nie pačuju jaho miłaj i razumnaj hutarki". Nia mohučy zabyć lubaha, jana bieskaniečna zalivałasia śłaźmi. Urešcie, ustała, chucieńka apranułasia i cichańka vyjšła z chaty. Jaje kroki śkiravalisia ŭ staranu mahiłak, dzie pachavany byŭ Janka. I choć maroz mocna ščypaŭ za nohi, tvar i ruki, u jaje vačach stajaŭ, jak žyvy, małady, viasioły Janka. U vušoch-ža adbivalisia jahonyja słovy: „Haniačka, ja budu dalej vučycca, budu staracca, kab usim našym bratom, sialanam žyłosia dobra. Ty-ž budzieš majej miłaj Haniačkaj, maim pryjacielem. Budzieš pamahać mnie ŭ pracy dla lepšaj budučyni.

Pry dumkach ab minułym, rabiłasia joj pryjemna, ciopła i dobra. Znajšoŭšysia ŭrešcie nad mahiłaj Janki, jana nikudy nie chacieła jści. Vočy kleilisia da sałodkaha snu, a sosny šumam byccam kałychali jaje. Zdavałasia joj, što nastała ciopłaje leta i jana z Jankam chodzić ściežkaj kala žyta, a kałasy prad imi kłaniajucca, i jany takija ščaślivyja, jak nichto na śviecie. Až raptam Hania čuje, jak jaje Janka biare za ruki, pryciskaje da siabie i kaža: palacim, Hania, tudy vysoka da śviatła, da sonca, da niabiesnych prastoraŭ, tam niama niadoli i ździeku. I čuła Hania, jak z Jankam padnialisia vysaka nad ziamloj, jak prad imi chmarki rasstupalisia, a jany lacieli vyšej i vyšej.

Na mahiłkach drevy šumieli, štoraz macniej i žałasna skrypieli.

— — — — — — — —

Nazaŭtra ludzi znajšli Haniu źmierzłuju nad mahiłaj Janki.

Na druhi dzień viečaram, maroz iznoŭ śpiašaŭsia na mahiłki, kab zamarozić śviežuju mahiłku Hani, pachavanuju razam z Jankam. Usie ichnija latucieńni zamknuła chałodnaja ziamielka navieki...

— — — — — — — —

Adzin nierazvažny krok Hani, kiravany hołasam serca, davioŭ jaje biez pary da mahiły...

---

**Hramadzianie! Kali chočacie, kab presa biełaruskaja raźvivałasia, była cikavaja i vychodziła akuratna — apłačvajcie akuratna padpisku i raspaŭsiudžvajcie svaje časapisy!**

---

Пятро Вішня

# Ага, будзеш?

— І ня піў і не наядаўся шмат, — толькі макотру заціркі зьеў, — а вось што насьнілася..

Што я накрычаўся, што я настагнаўся ўва сьне, дык лепей і не ўспамінаць.

— А што-ж прычудзілася, дзядзька Кандрат?

— Ды такое прычудзілася, такое ўдалося, што як успомню, дык млею... Пад сэрцам толькі: трэп-трэп-трэп, — у галаве туманеець і за плот, каб не паваліцца — хапаюся.

— Памаліўся Богу дый лёг... у каморы на кужусе... Ня доўга і варочаўся... І вось, няхай Бог даруе, сьніцца мне, нібы я — мая такі карова „Лысая“, а „Лысая“ не да сябе раўняючы — нібы я... А мая „Лысая“ так нібы ня „Лысая“, а нібы я, Кандрат Мутэрка... ідзе да хлява, бярэ вяроўку, накідае мне на рогі і вядзе паіць. А яно студзень, халадзішча — аж птушкі валяцца.

Іду я да калодзезя — раву!.. Зьмерз, як бярозавая кара... Раву:

— Не напойвай мяне халоднаю вадою, бо загіну!...

А яна не разумее.. Тыкае мордаю маею ў карыта, а там не вада, а крыга...

Напіўся я — раву, бо, чую, зьмярзаю, зусім зьмярзаю!..

Вядзе яна мяне ў хлеў, прывязала да ясел, кінула сечкі, дала каленам у чэрава:

— Еж, чарты-б цябе былі ўзялі!...

А ў хляве вецер, аж гудзіць... Як павее, дык нібы чорт у цябе сто голак устражыць...

Танцую я на месцы, ды:

— А та-та-та. А та-та-та!

А пасьля як зараву:

— Ой, ратуйце! Ой, хто ў Бога верує?

Ідзе мая „Лысая“ ў маім кажушку, у валёнках, ды ў зайчай шапцы маей.

— Чаго равеш?

— Ды зьлітуйцеся — гавару, — ці-ж можна скаціну ў такім хляве ў такі мароз дзяржаць? Прападу! Дальбо, прападу!

— А я, — гаворыць, — прапала? Я тры гады, каб цябе ваўкі зьелі, мучуся ў гэтым хляве. Я тры гады дрыжу, як у халодніцы. Павярніcь! Барыня якая!..

Ды па клубах дзержаком трах!

— Стой, сьцерва! Зьмерзла? А гартавалася! У-у-у! Нярaха!

Ды па ляшках дзержаком трах!

Ды мацюком мяне, мацюком...

. . . . . . . . . . . . . .

Зірк А жонка ўжо і даіць мяне йдзе. Хачу сказаць:

— Палажка! Гэта я! Што ты робіш?

А яна ўжо сядае...

І я прачхнуўся. Дык, паверыце, мокры ўвесь... І дрыжу... Перахрысьціўся, ды вось толькі вам і расказаў.

. . . . . . . . . . . . . .

Атулю на зіму хлеў, абкладу саломаю, прыраблю дзьверы... А то няхай яго абы што, крыху ня здурэў.

. . . . . . . . . . . . . .

Ага!

*З украінскае мовы пераклаў*
*Я. Хворaст.*

---

**Абавязкам кожнага маладога беларуса ёсьць чытаць, пашыраць і акуратна аплачваць падпіску на свой беларускі часапіс „ШЛЯХ МОЛАДЗІ“!**

---

# Канцэрт у Віленскай Беларускай Гімназіі

А сёмай гадзіне ўвечары прад вялікім віленскім „Казюковым" кірмашом (3.III.37) уваходзім у залю Віленскай Беларускай Гімназіі. Людзей, асабліва моладзі, як пчолаў у вульлі. Сярод іх з нацыянальнымі беларускімі йстужкамі ўвіхаюцца маладыя арганізатары канцэрту, вучні Бел. Гімназіі. Навокал чутна беларуская гутарка.

Незадоўга адчыняецца заслона і перад паўнюткай заляй зьяўляецца вучнёўская духавая аркестра, якая бойка адыйграла вязанку беларускіх мэлёдыяў. Пасьля аркестры выступаў малады бел. скрыпач Лапіцкі. Хто-ж ня знае чароўнае песьні скаргі скрыпкі? Мае яна людзкі голас, голас маткі над калыскай дзіцяці, голас кахаючай дзяўчыны. Зачаравала яна слухачоў і авеяла дзіўнымі хвалямі. Далей мастацка йграў струнны квартэт. І на гэтым была закончана першая частка канцэрту.

У другой частцы канцэрту зьявіўся на сцэну хор бел. гімназістак у нацыянальных вопратках. На перадзе ж іх ведамы беларускі дырыгент „дзядзька" Р. Шырма. За першым махам рукі ягонай ціхнуць гутаркі і вопleскі, публіка замірае ў чаканьні. Пасьля! Магутная, чароўная, родная песьня лілася цудоўнай казкай у душу слухачоў, п'яніла, усхвалёўвала, рвала ў незгаданую даль... Канчаецца частка жаноцкага хору. Гучна сыплюцца воплескі, „брава" і „біс", хоць даўно апала занавеса.

Далей йзноў сьпяваў, але ўжо мяшаны хор, грам. Р. Шырмы. І так плылі песьні адна за другой, адна за другую прыгажэйшая, чаруючы прысутных сваім хараством і мастацкім выкананьнем.

Зьнікае хор. На сцэну ўбягаюць маленькія балетніцы-гімназісткі, якія выканалі некалькі балетных эвалюцыяў.

І ўрэшце віхрам-бурай жывых колераў, аркадам магутнай энэргіі разьвінуўся на сцэне беларускі народны танец!

„Лявоніха", „Юрачка", „Чарот", выкананыя з мастацкім пачуцьцём, дынамікай, размахам і тэмпэрамантам, ачаравалі глядзельніка. А грам. Я. Хвораст умелым кіраваньнем і стылізацыяй танцаў паказаў, што ў ім можна спадзявацца наступніка нашага слаўнага танцора Буйніцкага. На гарачае жаданьне публікі танцы былі паўтараныя.

На заканчэньне заляй затрасьлі магутныя гукі беларускага рэвалюцыйнага гімну „Ад веку мы спалі і нас разбудзілі, мы знаем што трэба рабіць"...

— — — — — — — —

Знаем, што пакуль будуць людзі, не загіне Народ Беларускі...

*А. Чэмер.*

## Spynieńnie „Jaunimo Draugas"

18.III.1937 h. Vilenski Akružny Sud, na prapanovu administracyjnych uładaŭ, spyniŭ tydniovy časapis litoŭskaje moładzi ŭ Vilni „Jaunimo Draugas". Litoŭskaja moładź, nia majučy ciapier svajho časapisu, na vialikodnyja śviaty vydała adnadnioŭku, pryśviačanuju spravam litoŭskaje moładzi. Vydali tak-ža ŭ Vilni litaraturnuju adnadnioŭku p. n. „Varsnas" maładyja litoŭskija litaratary demakraty. jakija taksama nia majuć mahčymaści vydavać svajho litaraturnaha časapisu.

# Памагаць можна і трэба ўсьцяж і заўсёды

Нядаўна атрымалі мы некалькі лістоў з вёскі з нараканьнямі аб тым, што адозва аб месяцы сьнежні 1936 г., прысьвячаным помачы беларускаму студэнцтву, была надрукавана вельмі позна і што фактычна немагчыма было ужо сарганізаваць зборак на карысьць беларускага студэнцтва. Вось-жа сапраўды справа ня ў месяцы, а ў тым, каб помач гэта была, бо беларускае студэнцтва яе вельмі патрабуе. Марнуюцца ў нас вялікія маладыя таленты ня маючы магчымасьці вучыцца, марнуець здароўе наша студ. моладзь недаядаючы, ня маючы адпаведнае адзежы і памешчаньняў і г. д. і г. д. Помач патрэбна ня толькі ў м-цы сьнежні, але ўсьцяж і заўсёды, аж пакуль не апынімся ў такіх абставінах, калі асьвета і належныя варункі для здабываньня яе будуць справядліва і моцна загварантаваныя гаспадарствам (дзяржавай).

А знача, хто колькі можа і калі толькі зможа, павінен памагаць беларускаму студэнцтву ўсьцяж і заўсёды. Усьцяж і заўсёды можна так-жа арганізаваць зборкі на студэнцкі фонд. Асабліва-ж можна і трэба гэта рабіць у часе сьвята, як Вялікадня, Каляд, калі часта выдаем немалыя нават грошы на рэчы зусім непатрэбныя, як гарэлку і інш.

Калі-ж будзем больш лік узгадоўваць і мець сваіх інтэлігентаў, будзе нам далёка лягчэй папраўляць свой быт.

Грошы можна слаць на адрысы: Беларускі Студэнцкі Саюз — Вільня, Завальная 1, а таксама на рэдакцыі беларускіх часапісаў, а між іншым і на адрыс „Шляху Моладзі“.



НОВЫЯ УЛАДЫ БЕЛ. СТУД. САЮЗУ: сядзяць зьлева на права: У. Клім, В. Жукоўская, А. Дасюкевіч, Т. Трахімавічанка, М. Канцэлярчык; стаяць: А. Засім, Г. Сухая і Я. Каліцкі.

# Biełaruskaja kancert-viečaryna ŭ Varšavie

6 lutaha sioleta ŭ Varšavie, u zali im. M. Karłoviča (budynak Filharmonii) adbyłasia biełaruskaja kancert-viečaryna.

Nievialikaja zala, jakaja narmalna raźličana na 250 asob, źmiaściła ŭ sabie, pry pomačy kalidoraŭ, bolš 400 asob. Pry tym niamała ludziej adyjšło ad kasy z pryčyny niastačy miesca.

Kancert pačaŭsia kala 10 hadziny več. Pieršaja vystupała solo biełaruskaja śpiavačka E. Čarniaŭskaja-Orsa z pieśniami: „Adna, iznoŭ adna", „A za lichimi dy marozami" i „Maładaja Biełaruś". Usie hetyja pieśni harmanizacyi i ŭkładu viedamaha kampazytara praf. K. Hałkoŭskaha śpiavačka naša vykanała vielmi ŭdała. Vielmi dobra ŭdaŭsia tak-ža duet E. Čarniaŭskaj-Orsy z A. Pańkam. Hram. A. Pańka śpiavaŭ tak-ža solo, zdabyvajučy burnyja voplesski. Akampańjavaŭ hram. Savicki.

Paśla, pad kiraŭnictvam taho-ž hram. A. Pańki, vystupaŭ biełaruski chor, jaki pryhoža vykanaŭ pieśni: „Nie biaduj" — Vałynčyka, „Łapci" — Taraŭskaha i „Lavonichu".

Treba skazać, što hram. A. Pańka svaimi vystupleńniami vyjaviŭ vialikija muzykalnyja zdolnaści, i hetamu maładomu biełaruskamu śpievaku i rehientu žadajem dalej pamysna raźvivać svoj talent.

Paśla kancertu adbylisia skoki, u časie pieraryvaŭ katorych biełaruski paet E. Leŭkovič deklamavaŭ biełaruskija vieršy i śpiavaŭ narodnyja prypieŭki pad akampańjament hitary. U skokach, reč zrazumiełaja, nie abyjšłosia biez biełaruskaha nacyjanalnaha tancu „Lavonichi", jakuju prysutnyja horača vitali.

Ahułam, viečar udaŭsia. Prysutnyja razchodziačysia mieli najlepšyja ŭražańni i prasili arhanizataraŭ jak najchutčej niešta padobnaje — biełaruskaje — jznoŭ naładzić.

Zacikaŭleńnie biełaruskaj kancert-viečarynaj u Varšavie, jak siarod biełarusaŭ, zakinutych tudy losam, tak ukraincaŭ, a tak-ža i siarod polskaha hramadzianstva było vialikaje.

Viečar hety byŭ pieršym, za apošnija časy, arhanizavanym vystupleńniem Varšaŭskich Biełarusaŭ, jakija, budučy zdalok ad rodnych niŭ, starajucca pracavać na karyść svajej Baćkaŭščyny i biełaruskaje kultury.

**P. Łastaŭka.**

Varšava, 22.II.37,

**Ad redakcyi:** Apрača padanaje tut spravazdačy z bieł. kancert-viečaryny ŭ Varšavie hram. P. Łastaŭki, atrymali my jšče adnu spravazdaču adnaho z našych čytačoŭ, jaki ŭ zakančeńni piša tak:

„Inicyjataram, arhanizataram i haspadarom viečaru byŭ enerhičny hram. Piotra Łastaŭka, małady biełaruski piśmieńnik i dziejač — inicyjatar i arhanizatar paŭstajučaha, ale jašče nie zalehalizavanaha Biełaruskaha Kulturnaha Tavarystva ŭ Varšavie.

Hram. Łastaŭka na ładžańnie viečaryny paśviaciŭ vielmi mnoha času, ułažyŭ u jaje šmat pracy, enerhii i arhanizatarskaha sprytu, za što biełaruskaje hramadzianstva pavinna być jamu ŭdziačnaje.

Varšava, 23.II.37. V."

---

*Najlahčej vučycca ŭ rodnaj movie i ŭ svajej rodnaj biełaruskaj škole!*
*Najlepš baronić intaresaŭ biełaruskaha narodu svaja biełaruskaja presa!*
*Kožny biełarus pavinien padtrymlivać svaje b i e ł a r u s k i j a časapisy i damahacca svaich b i e ł a r u s k i c h š k o ł a ŭ!*

---

## Z KRAJU

### Śviedamaść biełaruskaja pašyrajecca.

Kimiany, Vilenska-Trockaha pavietu. My moładź kalonii Kimiany i akolic pieradusim pasyłajem vialikuju padziaku „Šlachu Moładzi" za pracu, jakuju niaŭtomna viadzie siarod biełaruskaj moładzi.

My, pamiatajem ab Akcie 25 sakavika, imkniemsia da taho, kab vyražanyja im ideały byli zrealizavanyja. Biełaruskaść u nas raście i pašyrajecca, choć vorahi našy starajucca jaje zabić. My mocna vierym, što pryjduć śvietłyja časy i dola Biełaruskaha Narodu palepšycca..

*Ad imia moładzi—Sasnoŭščyk.*

### Ab žyćci moładzi ŭ Horadzienščynie.

Łašanskaja voł. Žyćcio pływie ŭ nas rozna. Adny vioski adstałyja, a druhija žyvuć krychu kulturniej; čytajuć knižki i vypisvajuć navat štodziennyja hazety. Pravodzicca taksama rodnaja aśvieta pry pomačy lemantara: „Першыя Зернятки".

U v. v. Łaša i Suchoj Dalinie moładź pieradusim pje i ŭ karty hulaje, čym, biazumoŭna, sabie škodzić i hańbu ŭsim prynosić.

U v. Paharanach siarod moładzi pracuje „Strzelec". Pjanstva i bojki adnak nia ścichajuć, a pamnažajucca.

Pračytaŭšy zaklik u № 2 „Šlachu Moładzi" ab patrebie raspaŭsiudžvańnia hetaha časapisu, ja cełaj dušoj jaho padtrymlivaju i starajusia ŭ mieru mahčymaści „Šlach Moładzi" razpaŭsiudžvać. I dumaju, što kožny małady biełarus pavinien hetak rabić. Ahułam, my musim pastanavić i praviešci, kab naš časapis „Šlach Moładzi" mieŭ paŭsotni tysiač čytačoŭ i padpiščykaŭ.

Dyk, Braty Maładyja, kińcie karty i harełku, a važmiemsia za raspaŭsiudžvańnie „Šlachu Moładzi" i ahułam drukavanaha biełaruskaha słova! „My maładyja i mnoha nas"—kaža J. Łoś u svaim vieršy, dyk pakažam-ža što ŭmiejem i što možam!

*Małady biełarus.*

### Vučymsia biełaruskaj hramaty.

v. Sporuny, Brasłaŭskaha pav. Škołaŭ biełaruskich u nas niama. Moładź skončyŭšy pačatkavuju viaskovuju polskuju škołu biełaruskaje hramaty: čytać dy pisać, asabliva hraždankaj — nia znaje. I ahułam treba skazać, što toje, čaho nas vučyli ŭ polskaj škole i papolsku, u hałavie nia trymajecca. Kab nia być adnak ślapymi i ciomnymi, my starajemsia sami vučycca pabiełarusku čytać i pisać. Pamahaje nam u hetym knižka „Пішы самадзейна." Z rodnaj aśvietaj moładź naša raźvivajecca i paznaje dzie praŭda, a dzie fałš. Rodnaja aśvieta raźvivaje tak-ža siarod našaj moładzi luboŭ da svajho narodu i zaachvočvaje da pracy dla jahonaha dabra. Tym, kamu samaaśvieta dajecca ciažej, pamahajuć tyja, što ŭžo krychu padvučylisia. Miž inšym i ja mieŭ takuju pomač ad svajho siabry K. J., za što jamu duža ŭdziačny.

*J. Šipovič.*

### Замест картаў трэба ўзяць у рукі кніжку і газэту!

в. Скамарошкі, Стаўпецкага пав. У нас моладзь, нажаль, нічым ня цікавіцца. Вечары і нават ночы марнуюць на гульнях у карты. Таксама ёсьць і ў ваколічных вёсках. А пара ўжо, каб месца картаў заняла свая добрая беларуская кніжка і газэта, бо так жыць далей нельга.

*М. Папоўскі.*



# ХРОНІКА

## З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

═ „Беларуская Крыніца" йзноў жыве. Прысудам Віленскага Гарадзкога Суду з дня 25-га лютага 1937 г. у справе спыненьня „Бел. Крыніцы" і рэд. Ад. Дасюкевіча, аб якой пісалі мы ў № 2 (101) „Шл. Мол.", забарона выдаваньня гэтага часапісу зьнята, а рэд. А. Д. апраўданы. Пракурор ад прысуду гэтага адклікнуўся ў Акружны Суд. Тымчасам 14 сакавіка сёл. ужо выйшаў № 1 „Бел. Крыніцы".

═ Канфіскаты. 24.III сёл. віленскія адміністрацыйныя ўлады сканфіскавалі кніжку 1 (10) беларускага літаратурна-навуковага часапісу „Калосьсе" і № 2 „Беларускай Крыніцы".

═ Літаратурныя пятніцы. У апошнім квартале м. г. і ў першым бягучага году ў памешканьні рэд. час. „Калосься" адбылося трынаццаць літаратурных зборак, г. зв. „літаратурных пятніц", на якіх чыталіся творы бел. паэтаў і пісьменьнікаў, адбываліся над імі дыскусіі і агаворка праблемаў з літаратуразнаўства.

═ У Беларускіх студэнтаў. 13 сакавіка у Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы пры Віл. Унівэрсытэце адбыўся агульны гадавы сход і перавыбары ўладаў гэтае арганізацыі. Старшынёй выбраны студ. Ант. Шукелайць, а на сяброў ураду: студ. студ. В. Жукоўская, А. Каткавічанка, Ст. Нарушэвіч і М. Смаршчок.

14 сакавіка адбыўся гадавы агульны сход і перавыбары ў Беларускім Студэнцкім Саюзе. Склад новага Ураду БСС гэткі: Адам Дасюкевіч—старшыня, Канцэлярчык, Жукоўская, Клім і Засім—сябры. Рэвізыйная Камісія: Т. Трахімавічанка, Г. Сухая і Я. Каліцкі

═ Лекцыя. Кс. Ад. Станкевіч 7.III сёл. ў Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы ў VI залі галоўнага будынку Віленскага Унівэрсытэту прачытаў лекцыю на тэму: „Праф. М. Баброўскі, яго жыцьцё, дзейнасьць і беларускасьць".

═ Засудзілі. 25.III сёл. Віл. Гарадзкі Суд за прэсавую справу засудзіў б. рэд. „Б. Крыніцы" Я. Пазьняка на 3 тыдні арышту і 100 зл. штрафу.

═ Выслалі ў Бярозу. Газэты падалі, што на пачатку м-ца сакавіка сёл. Наваградзкі Ваявода выслаў ў лагер адасабленьня, бел. паэта С. Сіняка з Слонімшчыны, грам. Вярбіцкага і інш. беларусаў.

═ За 1936 год лічба асоб, аглядаўшых Беларускі Музэй ім. Івана Луцкевіча, дайшла блізу паўтары тысячы (точна: 1494), у тым — 64 экскурсіі. У пазалеташнім годзе былі толькі 903 асобы, у тым—42 экскурсіі.

═ Ведамы кампазытар К. Галкоўскі апрацаваў апошнім часам на мяшаны хор багатыя і цікавыя з боку музычнага і даступныя для невялікіх хораў чатыры беларускія народныя песьні: „Там пад гаем зяленькім", „Ой, маці, маці, маці", „Пайшла дзяўчынка ў лес за грыбамі" і „Ой, чумача, чумача".

═ Дзеля ўшанаваньня памяці вялікага паэта А. С. Пушкіна, з прычыны 100-годзьдзя ад дня яго сьмерці, супрацоўнікі часа ісу „Калосьсе" 14.III ладзілі вечар, на якім праф. В. В. Багдановіч прачытаў рэфэрат, паэт М. Танк прачытаў свае пераклады вершаў Пушкіна на бел.мову, а мгр.Я. Хворaст прадэклямаваў вершы паэта ў арыгінале.

═ 28.II у залі гімназіі Жыгімонта Аўгуста ў Вільні адбыўся вечар песьні. Аб беларускай народнай песьні рэфэрат прачытаў гр. Цытовіч. Пад яго кіраўніцтвам хор вучаніц з гімназіі Арэшчыхі і вучняў з правасл. духоўн. сэмінарыі прапяяў, пераважна унісоно, беларускія народн. песьні з цыклю „нарачанскіх".

---

═ 27.II.37 у залі варшаўскай кансэрваторыі адбыўся канцэрт песьні. Выступаў слаўны тэнар Міхась Забэйда-Суміцкі. З прапяяных ім песень, найлепш спадабаліся публіцы песьні беларускія.

---

═ А. Ц. Грэчанінаў у Рызе. Праездам з Францыі ў Фінляндыю і Швэцыю, 3.III затрымаўся на некалькі дзён у сталіцы Латвіі, Рызе, слаўны на ўвесь сьвет і заслужаны для беларускага музычнага творства кампазытар А. Ц. Грэчанінаў. 5.III адбыўся тамака яго-ны аўтарскі канцэрт. Сярод выкананых твораў была і беларуская народная песьня „Зязюлька", якая сабрала найбольш воплескаў. Беларусы, ня могучы кампазытара прывітаць у сваей грамадзе, пайшлі на канцэрт і там гэта зрабілі, ахвяроўваючы публічна кампазытару букет кветак і памастацку аздоблены беларускім арнамантам адрыс з подпісамі рыскіх беларусаў. Арнамант і літары на адрысе намаляваў беларускі мастак П. Міраповіч.

---

═ Беларускія паэты і кампазытары БССР працуюць над стварэньнем 6 арыгінальных беларускіх опэр і аднаго балету.

═ У Маскве пачаліся заняткі дзяржаўнага ансамблю народных танцаў СССР. Мэта заняткаў — стварыць высокамастацкія ўзоры народнага танцу. З беларускіх танцаў пакульшто выбраны: „Лявоніха", „Крыжачок" і „Юрачка"

## USIAČYNA

— Arhanizavanaja ŭ Polščy pałk. Kocam novaja palityčnaja partyja, jakaja maje padtrymańnie ŭ Prezydenta I. Maścickaha i Maršałka Rydz-Śmihłaha, a nazyvajecca „Obozem Zjednoczenia Narodowego", źbiraje sabie prychilnikaŭ. Ahułam papularnaść hetaj partyi małaja i jana zdajecca nie źbiare pałovy taho, što mieła kališ BB. Prytym treba zaznačyć, što apazycyi: PPS, „Stronnictwa Ludowego", endecyi i inš. pałk. Koc za saboj nie paciahnuŭ. Nie pajšoŭ dahetul za im tak-ža badaj nichto z h. zv. nacyjanalnych mienšaściaŭ.

— Na stancyi Rudniki kala Čenstachovy 25.III siol. zdaryłasia na čyhuncy katastrofa, u časie jakoj zhinuła 5 asob i 40 raniena.

— U Hišpanii dalej idzie zaŭziataja baraćba biez pavažniejšych źmienaŭ. Anhlija, Francyja, Niamieččyna, Italija i Partuhalija, kab pryčynicca da chutčejšaha zakančeńnia chatniaje hišpanskaje vajny, pastanavili kantralavać hišpanskija hranicy i nie davać mahčymaści dalej uvaružvacca vajujučym. Dahetul adnak kantrola heta ničoha kankretnaha nie dała.

— U Švajcaryi niadaŭna zvaliŭsia i razbiŭsia pasažyrski samalot. Zhinuła 13 asob.

— U pravincyjach Giengtu i Sočuanie ŭ Kitai hoład. Pamirajuć sotni i tysiačy ludziej. U našym-ža krai vielmi ciažkoje pałažeńnie ŭ Dzisienščynie i susiednich pavietach.

— Apošnim časam adnosiny miž Italijaj i Anhlijaj vielmi napružylisia.

— U m. Nju-Londanie (Zł. Štaty Paŭnoč. Ameryki) razarvaŭsia ŭ pohrabie školnaha 2-ch etažnaha budynku zbornik hazu, ad čaho ŭvieś budynak razvaliŭsia. Było heta ŭ časie školnych zaniatkaŭ, tak što zhinuła bolš 500 dziaciej.

— U Francyi niespakojna, bo miž fašystami pałk. De-la-Roka i kamunistami časta dachodzić da vialikich bojak. Apošniaja bojka miž imi i ŭ dadatku z palicyjaj u Paryžy, pierad katalickim Vialikadniem, dała niekalki trupaŭ i mnoha ranienych.

— Italijancy ŭ Abisynii paśla taho, jak była kinuta bomba na vice-karala Graciani'aha ŭ Ad.is-Abebie, rasstralali dvoch synoŭ abisynskaha pasła ŭ Londanie Martini, syna byŭšaha abisynskaha ministra zahraničnych spraŭ, złavili i prytym rasstralali Rasa Destu i mnoha inšych vydatnych abisyncaŭ.



Cudam techniki nazyvajuć niadaŭna zbudavany ŭ Amerycy miž San-Francisko i Okland most. Most hety jość najdaŭžejšym na śviecie, bo maje 17 z pałavinaju kilametraŭ. Budavali jaho 3 z pałavinaju hady, a kaštavaŭ jon 77 milijonaŭ dalaraŭ. Častku henaha cikavaha mostu vidać na źnimcy, zroblenaj noččy.

## PAŠTOVAJA SKRYNKA

Moładzi zpad Indury: Piśmo Vaša atrymali i pierasyłajem Vam haračyja spačuvańni. „Šl. Mol." vysyłajem i prosim prysłać dakładny Vaš adrys, dyk my zrobim zachady pierad adpaviednymi ŭładami, kab časapis Vam byŭ daručany akuratna. Karespandencyi nia možam nadrukavać, bo za jaje skanfiskavali-b nam časapis.

M. Kazarovič u: „Šl. Moładzi" vysyłajecca Vam praz uvieś čas akuratna, damahajciesia na pošcie. Žadanyja numary vysyłajem.

Bardasu: Žadanyja druki vysłali. Za miłyja słovy ščyraja padziaka. Prysłanyja mataryjały nažal jašče słabavatyja. Piara adnak nia kidajcie, bo majem nadzieju, što chutka patrapicie dać i lepšyja rečy, kali budziecie ŭ hetym kirunku pracavać.

Čas.: Usie Vašy artykuły i zaciemki padchodziać pad kanfiskatu i dziela taho nia možam ich nadrukavać. Prosim pisać čaściej, ale aściaražniej.

J. Sipovič u: Prysłanyja vieršy słabyja i da druku nie padchodziać. Piara adnak nia kidajcie, a pišycie, dy jak najbolš čytajcie biełaruskich knižak.

Maładomu Biełarusu: Za ŭsio prysłanaje ščyraja padziaka. Vieršaŭ radzim Vam nie pisać. Apaviadańni Vam lepš udajucca, ale taksama słabavatyja. Dumajem što kali budziecie bolš čytać biełaruskich knižak, patrapicie pisać lepš. Karespadencyju drukujem i prosim pisać ich bolš.Prośbu ŭ inšyja redakcyi pieradali.

Дубку: Вершы слабаватыя, патрабуюць лепшай апрацоўкі. Адзін з іх пастараемся надрукаваць.

Г. Бульбаеду: Прысланае апавяданьне будзем старацца надрукаваць і просім пісаць больш.

А. Чэмеру: Справаздачу з канцэрту, як бачыце друкуем. Прывітаньне!

М. Папоўскаму: Вершы слабыя і да друку не падходзяць. Радзім папрабаваць пісаць прозай. За карэспандэнцыю дзякуем і як бачыце ўжо друкуем.

Янку Ратаю: Вы зрабілі вялікі поступ. Вершы яшчэ кульгаюць. Працуйце больш, дык будуць можа і зусім добрыя. Адзін Ваш верш друкуем.

П. Граніту: Высланыя Вамі праз сваіх знаёмых вершы ў 1936 годзе атрымалі мы толькі ў канцы лютага сёлета. Кульгае ў іх рым і мова, пры тым трэба было-б Вам крыху лепш пазнаць беларускую граматыку і правапіс, ды агулам больш чытаць бел. кніжак і вершы лепш апрацоўваць. Атрымалі таксама новыя вершы і пісьмо. Вершы крыху лепшыя і адзін з іх паправіўшы друкуем. У лік сталых супрацоўнікаў залічаем.

В. Ж.: Прысланыя творы літаратурнай вартасьці ня маюць. Нам маглі-б Вы быць карыснымі, калі-б пісалі карэспандэнцыі з жыцьця моладзі ў Вашай старонцы і каб распаўсюджвалі „Шлях Моладзі", здабываючы магчыма найбольш падпішчыкаў.

## „Ня лай і ня дай"...

„Беларускі Фронт" бадай ад пачатку нядоўгага свайго існаваньня рабіў нам розныя безпадстаўныя прытычкі, а ў апошнім № 3 за м-ц сакавік раптам расхваліў, пішучы, што „Шлях Моладзі" рэдагуецца ўмела і ёсьць сымпатычным. Вось-жа на колькі прытычкі падводзілі нас над паліцыйны абух, на толькі хвальба, якая пэўна-ж дае нам сатысфакцыю, наводзіць можа нашых падпішчыкаў на думку, што мы з „Бел. Фронтам" у сваяцтве. Ясна, ані прытычкі, ані падобныя думкі не маюць ніякіх падстаў. Найлепш-жа было-б каб „Бел. Фронт" трымаўся прынцыпу: „ня лай і ня дай"...



*Часапіс рэдагуе Рэдакцыйная Калегія.*

*Друкуецца ў Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны ў Вільні (Завальная 1-2) коштам працы: Я. Багдановіча, Я.Найдзюка і А. Шутовіча.*

Выдавец: „БЕЛПРЭС". Рэдактар Я. НАЙДЗЮК